**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№43(655)**
**25 кастрычніка 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




Каб горад быў чысты.

Photo ByMedia.net



## У Пастаўскім раёне на месцы гібелі верталётчыкаў і журналістаў адкрылі помнік

**19 кастрычніка ля сялібы Вілейты Пастаўскага раёна на месцы падзення верталёта Eurocopter AS355 NP Ecureuil 2 асобнага авіяцыйнага атрада органаў памежнай службы адкрылі помнік.**

Помнік уяўляе з сябе шасціканцовы крыж, усталяваны на гранітным валуне, вакол яго размешчаны камяні з імёнамі двух загінулых пілотаў і траіх тэлевізійнікаў. На адкрыццё помніка прыбыло кіраўніцтва Дзяржпамежкамітэта і Пастаўскага раёна. Напэўна, упершыню ў гісторыі Беларусі, на месцы гібелі журналістаў прагучаў вайсковы салют.

Нагадаем, што 20 кастрычніка 2011 года ў 15:45 ля вёскі Вілейты Пастаўскага раёна прыкладна ў кіламетры ад беларуска-літоўскай мяжы разбіўся верталёт Дзяржпамежкамітэта Беларусі AS355 NP Ecureuil 2 з бартавым нумарам EW-310BH. У выніку катастрофы загінулі пілоты Ігар Скварцоў і Андрэй Пякарскі, карэспандэнт Юлія Шатэрнік, аператар Віталь Прачкоўскі і кіроўца Сяргей Шамалаў. Верталёт выконваў планавы палёт па ахове дзяржаўнай мяжы, а журналісты збіраліся зрабіць адмысловы рэпартаж.

7 сакавіка 2012 года крымінальная справа па факце авіяцыйнага здарэння была спынена, віны персанала, лётчыкаў, не ўсталявана, як не былі знойдзены і відавочныя тэхнічныя прычыны аварыі.

*Сяржук Серабро*





## МНС інфармуе

**на 23.10.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 925;
Гібель людзей – 114, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 5048.6 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 38;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма;
Урон – 275 150 000 руб.



## Гаспадарчы суд Віцебскай вобласці даймае даўжнікоў праз SMS

**Амаль паўтысячы SMS-паведамленняў за два месяцы адправіў даўжнікам гаспадарчы суд Віцебскай вобласці, паведаміла карэспандэнту БЕЛТА начальнік аддзела судовай практыкі Вольга Кібісава.**

Аддзелам выканання пастаноў са жніўня бягучага года ўкаранёны і актыўна ўжываецца новы метад працы – масавае рассыланне SMS-паведамленняў пра прымусовае спагнанне абавязку на абаненцкія нумары даўжнікоў з выкарыстаннем рэсурсаў, прадстаўленых мабільным аператарам СТАА "МТС". Па меркаванні суразмоўніцы, такая сувязь з даўжнікамі дае бясспрэчны дадатны вынік: акрамя дадатковага інфармавання пра існуючую запазычанасць, даўжнікі пачынаюць самі актыўна звязвацца з судовым выканаўцам, каб высвятліць, што за працэдура пачата ў адносінах да іх, якія негатыўныя наступствы можа пацягнуць прымусовае выкананне судовай пастановы. У наш час ужо можна прывесці шматлікія прыклады пагашэння запазычанасці індывідуальнымі прадпрымальнікамі, якія звязаныя з атрыманнем SMS-паведамленняў, канстатавала Вольга Кібісава.

Гаспадарчым судом вобласці за 9 месяцаў бягучага года ўзбуджана 8975 выканаўчых вытворчасцяў, што на 34% больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Рэальна выканана 69% ад агульнай колькасці выканаўчых вытворчасцяў.

*Дыяна Курыла - БЕЛТА*

Полацкі раён

# Горад нікуды не знікне

■ Станіслаў Раманчук

**Рэформа скарачэння чыноўніцкага апарату ў краіне толькі распачынаецца, а ў адным з буйнейшых рэгіёнаў Прыдзвіння гэты працэс набраў сілу.**

На працягу другога асеннняга месяца на абмеркаванне насельніцтва вынеслі ў кастрычніку пытанне аб'яднання 80-тысячнага горада Полацка са значна адстаўшым у сваім развіцці Полацкім раёнам. Па задумцы яны аб'ядноюцца ў адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку. Па аналагічнай схеме дзейнічалі ў Беларусі і раней, калі замест 12 буйных гарвыканкамаў кіраваць надзённымі жыццёвымі пытаннямі на агульнай тэрыторыі сталі проста 12 райвыканкамаў. Яшчэ раней не стала гарсаветаў дэпутатаў у такіх невялікіх 20-тысячных гарадах, як Глыбокае і Паставы. Цяпер па-сутнасці нічога не зменіцца і ў адным з самых старажытных гарадоў краіны, дзе проста будзе ліквідаваны гарвыканкам і скароціцца колькасць упраўленцаў. У гэтым рэгіёне дагэтуль працавалі агульны ваенкамат, падраздзяленне МНС, службы медыцыны, санітарыі, экалогіі і сувязі, аб'ядная газета "Полацкі веснік". З намечаным аб'яднаннем рэсурсаў яшчэ больш магутнай стане ўзбуйненае мясцовае прадпрыемства ЖКГ і вяскоўцы разлічваюць, што лепей стануць вырашацца іх застарэлыя праблемы інфаструктуры Ветрына, Фарынава, аграгарадкоў раёна. Адзінае, што полацкіх гарадскіх і раённых упраўленцаў хвалюе, гэта тое, што пасля скарачэння штатаў чакае неўзабаве і новае іх змяншэнне ўжо ў кабінетах Полацкага райвыканкама, як і ў іншых аналагічных органах улады па ўсёй краіне.

Докшыцкі раён

# Цэнтр здароўя для гараджан

■ Чэслаў Якубовіч

**Апошнім часам прыкметна папрыгажэў і быццам памаладзеў сярод іншых малых гарадоў краіны і райцэнтр Докшыцы.**

У гэтым маленькім гарадку пражывае няшмат насельніцтва, меней 7 тысяч чалавек, але трэць з іх дзеці, падлеткі і моладзь. Менавіта для іх у першую чаргу разлічана будаўніцтва мясцовага водна-аздараўленчага цэнтра, здача якога ў эксплуатацыю намечана на будучы год. Цяпер жа на гэтым аб'екце шчыруюць будаўнікі мясцовай ПМК-52 і работнікі яшчэ шасці субпадрадных арганізацый. Ужо асвоена 8 млрд. рублёў з розных крыніц, на аздараўленчы цэнтр пойдзе яшчэ 5 мільярдаў. Цяпер у двухпавярховым будынку, у якім акрамя басейна з 4-мя плавальнымі дарожкамі будуць яшчэ саўна, трэнажорныя залы і нават буфет для наведвальнікаў, ідуць работы па аддзелцы. Пачалося і добраўпарадкаванне тэрыторыі, паблізу якой размяшчаецца сярэдняя школа. Вядуцца работы і ў самім басейне па ўстаноўцы сучасных сістэм ачысткі вады. Дарэчы, аздараўленчы цэнтр, размешчаны па суседстве з сярэдняй школай, будзе злучаны з ёй спецыяльнай галерэяй. Перад гэтым у райцэнтры правялі мадэрнізацыю лазні. Акрамя яе, без сумнення, і водна-аздараўленчы цэнтр стане самым запатрабаваным аб'ектам сацыяльнай сферы ў горадзе. Сюды будуць імкнуцца трапіць усе катэгорыі насельніцтва, як гэта назіраецца ў іншых кутках вобласці, дзе працуюць плавальныя басейны.

Пастаўскі раён

# І на ніве спорту

■ Кастусь Александровіч

**На рэспубліканскіх святах-кірмашах працаўнікоў вёскі пастаянна атрымоўвалі розныя ўзнагароды прадстаўнікі Пастаўскага раёна.**

А вось сёлета ў Горкі запрасілі і мясцовых спартсменаў, бо ў новым Лядовым палацы прайшла цырымонія ўзнагароджання пераможцаў рэспубліканскага агляду-конкурсу на лепшую пастаноўку спартыўна-масавай і фізкультурна-аздараўленчай работы. Пастаўскі фізкультурна-спартыўны клуб "Атлант" заняў высокае трэцяе месца ў Беларусі па гэтых параметрах і апярэдзіў нават многія буйныя гарады краіны. У рэгіёне зараз створаны належная база для развіцця галіны, усе школы маюць спартзалы, а ў горадзе дзейнічаюць нават тры фізкультурна-аздараўленчыя цэнтры ў асноўных мікрараёнах. Насельніцтва з задавальненнем наведвае дзве сауны з плавальнымі басейнамі, турэцкую лазню, тэнісны корт. Зімой людзі бяруць на пракат лыжы і канькі, летам – лодкі, катамараны, гідрацыкл. Да 200 млн. рублёў вырас аб'ём платных паслуг. Яшчэ ў райцэнтры дзейнічаюць дзіцячы і дарослы шахматныя клубы, 25 груп прадрыхтоўкі пры ДЮСШ, адна з вядучых у краіне школ каратэ і футбольная акадэмія ПМЦ. Мясцовая валейбольная каманда стала чэмпіёнам Беларусі па валейболе ў 1-й лізе, мае ў сваім складзе 2 майстры і 9 кандыдатаў у майстры спорту. Не выпадае сумаваць аматарам спорту, бо ў горадзе праводзяцца шмат спаборніцтваў нацыянальнага і міжнароднага ўзроўняў. Гатовы да здачы ў лістападзе і плавальны басейн на базе аднаго з садзікаў для навучання дашкольнікаў плаваць.



# Лічба нумара

**253000** – столькі бясплатных добраўпарадкаваных кватэр, па дадзеных дырэкцыі Белзамежбуд", было перададзена бяздомным сем'ям за апошнія 17 месяцаў у Венесуэле. Нават за два дні да нядаўніх прэзідэнцкіх выбараў у гэтай далёкай лацінаамерыканскай краіне, з якой моцна сябруе беларускае кіраўніцтва, ключы ад свайго жылля атрымалі там яшчэ 1416 шчаслівых венесуэльцаў. Для дзяржавы, дзе вострa стаіць гэта праблема і застаецца даволі шмат бяздомных, - гэта быў адзін з галоўных фактараў атрымання перамогі яе лідару на, сапраўды, дэмакратычных выбарах, да якіх нам яшчэ трэба імкнуцца.

Як вядома, 58-гадовы хворы на рак, харызматычны ўнутры сваёй краіны і адыёзны шмат дзе за мяжой Уга Чавес перамог у трэці раз запар і будзе кіраваць Венесуэлай (калі дажыве) на працягу 20 гадоў. Такі быў там выбар большасці народа, за свайго лідара ў чырвонай рубашцы прагаласавалі 54,42 % выбаршчыкаў на 39 тысячах 810 выбарчых участках. Неверагодна для нас, але ўсе венесуэльскія ўчасткі для галасавання былі абсталяваны электроннай сістэмай падліку галасоў, якая не падмане. Гэта вам не Беларусь, дзе па-ранейшаму на ўчастках дапатопныя чырвоныя драўляныя скрынкі з архаічнай назвай "урны" (быццам для смецця).

За справядлівасцю падліку галасоў назіралі 193 тысячы чалавек, прычым ад прэзідэнцкай каманды і ягонага асноўнага канкурэнта 40-гадовага юрыста і эканаміста, экс-губернатара штата Энрыке Каприлеса было назіральнікаў у роўнай прапорцыі. Асвятлялі прайшоўшыя выбары ў Венесуэле больш 10 тысяч мясцовых і замежных журналістаў, для якіх у Каракасе быў падбудаваны новы сучасны прэс-цэнтр, насычаны суперэлектронікай плошчай 1500 м2. Калі на папярэдніх выбарах Чавес перамог з адрывам у 27 %, то на гэты раз яму прыйшлося пахвалявацца за канчатковы вынік, а ў рэзідэнцыі пад Мінскам ягоны беларускі калега нават не спаў у ноч выбараў.

Сапраўды, усюды ідуць перамены. Вось і ў Грузіі падышла на канца эпоха руж, на выбарах у парламент перамагла апазіцыйная партыя "Грузінская мара" на чале з мільярдэрам Бідзінай Іванішвілі. Партыя дзеючага прэзідэнта Міхаіла Саакашвілі крыху прайграла, пераходзіць у апазіцыю, хоць і правяла паспяховыя рэформы ў сферах адукацыі, аховы здароўя і паліцыі. Грузіны сталі зарабляць ужо каля 350 еўра ў месяц, у іх выраслі рэальна пенсіі, паколькі бюджэт сацсферы стаў большым за бюджэты паліцыі і арміі краіны. А вось у нас крызіс у будаўнічай сферы, толькі у Мінску амаль 9 тысяч сем'яў былі зняты з чаргі на паляпшэнне жыллёвых умоў.

На камерцыйнае жыллё у беларусаў не хапае грошай. Толькі што адбыліся парламенцкія выбары і ўслед за імі, як і чакаў народ, рванулі ўверх цэны на паліва (у 4-ы раз за год), на мяса, цыгарэты, праезд у грамадскім транспарце. На чарзе павышэнне цэн на камунальныя паслугі ды і за электрычнасць хутка ўвядуць нормы спажывання. Мы зноў вярнуліся да ранейшых эканамічных праблем, і ў знешнім гандлі зноў пачаў назірацца адмоўны баланс. Гэта ўжо не хваленая стабільнасць, а поўны … Дарэчы, у тых жа венесуэльцаў выбаршчыкаў амаль у 3 разы болей, чым у нас, пад 19 мільёнаў.

І няма там ніякага датэрміновага галасавання, як у Беларусі, а яўка на выбары перавысіла 80 %. Правячы рэжым Чавеса і не думае разганяць у сталіцы 100-тысячны мітынг прыхільнікаў апазіцыі, як бы ў нас назвалі, "пятай калоны", якая выступае за збліжэнне з Амерыкай, рынкавыя рэформы. Канешне, не трэба ідэалізаваць венесуэльскія парадкі, якія там ёсць. Аднак Уга Чавес вымушаны будзе лічыцца з той амаль паловай сваёй нацыі, якая хоча перамен, і будзе супрацоўнічаць з тымі, хто падвяргае крытыцы балівaрыянскія падыходы за іх бюракрытызм, абмежаванні дзелавой ініцыятывы, характэрныя для планавай, дырэктыўнай эканомікі.

Сёння пытанне для нас, куды далей пойдзем мы? На наступны год запланавалі быццам неверагодны рост ВУП нават на 8,5 % (для гэтага трэба 65 % усёй прадукцыі прадаваць за мяжой). Загаварылі і аб скарачэнні штату дзяржструктур на 25-30 %. Апошні крок у правільным накірунку, бо чыноўнікаў развялося зашмат, асабліва ў Мінску і ў абласцях. Аднак падаецца, што хутчэй усяго гэта будзе "касметычны" рамонт замест рэальна наспеўшых рэформ закасцянелай палітычнай і эканамічнай аўтарытарнай сістэмы. Вось чаму ў Беларусі за няпоўных 10 месяцаў рост цэн дасягнуў ужо 16 %, аб такіх тэмпах інфляцыі ўжо забыліся нават жыхары СНД, а ў Еўропе такі цэнавы ўсплеск – проста нонсенс.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 25.10.12 | | | | Пятніца 26.10.12 | | | | Субота 27.10.12 | | | | Нядзеля 28.10.12 | | | | Пнд.29.10.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 10:00 | 16:00 | 22:00 | 04:00 | 10:00 | 16:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +4 | +5 | +5 | +3 | 0 | 0 | -1 | -4 | -2 | +2 | -2 | -4 | -3 | +1 | -3 | -4 | -2 | +2 |
| Ціск | 745 | 741 | 736 | 730 | 727 | 729 | 735 | 738 | 738 | 737 | 736 | 736 | 737 | 741 | 743 | 745 | 746 | 747 | 747 |
| Вільготнасць | 92 | 98 | 98 | 89 | 93 | 82 | 65 | 69 | 77 | 80 | 67 | 68 | 72 | 83 | 62 | 76 | 83 | 87 | 69 |
| Вецер м/сек | 4 Ю-З | 5 Ю-З | 8 Ю-З | 6 Ю-З | 6 З | 8 З | 9 С-З | 5 З | 5 Ю-З | 7 Ю | 9 Ю-З | 5 Ю-З | 7 З | 4 З | 6 З | 4 З | 3 З | 4 З | 6 Ю-З |

## Дзень за днём

**У Беларусі стварылі дзяржкамісію аб скарачэнні на чвэрць апарату чыноўнікаў і такой жа колькасці міліцыі, павышэнні заробкаў астатнім службоўцам. Для насельніцтва мяса зноў падаражэла на 30 %, апошняе такое павышэнне цэн было ў сярэдзіне мая. Зноў падаражэлі цыгарэты, паліва, праезд на транспарце. Толькі крыху больш 5 тысяч беларусаў адклалі добраахвотна выхад на пенсію з мэтай яе наступнага павышэння. І у верасні беларусы скупілі валюты на 356 млн. $ болей, чым прадалі. У Міністэрстве адукацыі РБ задумаліся аб вяртанні ў старэйшыя класы школ профільнага навучання. Беларусь адмовілася ад пераводу стрэлак гадзіннікаў на зіму і засталася ў летнім часе, але гэта – не наш беларускі паясны час.**

# Важнейшыя навіны свету

**Кітай.** З-за абвастрэння адносін з Японіяй па спрэчных астравах вядучыя кітайскія банкі адмовіліся ўдзельнічаць у Токіо ў штогадовай канферэнцыі Сусветнага банка і СГА.

**Грузія.** Апазіцыйны блок мільярдэра Б. Іванішвілі выйграў свабодныя парламенцкія выбары, яго лідар будзе прэм'ерам-міністрам, а прэзідэнт М. Саакашвілі ў апазіцыі.

**Сірыя.** У выніку жорсткіх вулічных баёў гістарычны цэнтр другога па велічыні горада краіны Алеппа са спісаў Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА быў поўнасцю знішчаны.

**Турцыя.** Пасля абстрэлу Сірыяй турэцкай вёскі і гібелі яе пяці жыхароў Анкара нанесла агонь у адказ і запатрабавала ад Савета бяспекі ААН спыніць агрэсіўны рэжым Б. Асада.

**Іран.** З пачатку года нацыянальная валюта – рыал з-за ўведзеных Захадам гандлёвых санкцый абясцэнілася ўжо на 80 %, у краіне пачаўся востры эканамічны крызіс, рост цэн.

**Мексіка.** Урад краіны дамовіўся з калегамі з ЗША аб рэалізацыі сумеснай праграмы рэпатрыяцыі нелегальных мігрантаў. Да канца гэтага года 2,5 тысячы мексіканцаў вернуць дамоў.

**ЗША.** ФБР і пракуратура Нью-Ёрка выявілі 11 грамадзян ЗША рускага паходжання, яны займаліся нелегальнымі пастаўкамі ў РФ навейшай электронікі для ваенных сістэм.

**Літва.** Міністэрства энергетыкі ЛР падала іск на "Газпрам" у Стакгольмскі арбітраж з патрабаваннем вярнуць 1,5 мільярда еўра за пастаўлены па завышаных цэнах з 2004 годзе газ.

**Італія.** У другі раз свой пратэст супраць урадавай праграмы эканоміі сродкаў адзін з італьянцаў выказаў акцыяй на высокім шпілі ватыканскага сабора святога Пятра.

**Кітай.** Ля берагоў Ганконга адбылося буйнейшае за чвэрць стагоддзя караблекрушэнне парома і катэра, у выніку загінулі 36 чалавек, больш 100 атрымалі розныя раненні, траўмы

**Калумбія.** У пятага па ліку ў Лацінскай Амерыцы прэзідэнта краіны Хуана Сантаса ўрачы выявілі рак прастаты на ранній стадыі, удалосяабысціся без сеансаў радыё і хіміятэрапіі.

**Швецыя.** Высланы з РБ пасол Стэфан Эрыксан заявіў, што ў аўтарытарных умовах улады і татальнага кантролю за людзьмі ў Беларусі проста не можа быць ніякай апазіцыі.

**Нігерыя.** З-за вельмі моцнай паводкі і прарыву дамбы вёскі і дамы нігерыйцаў запоўнілі кракадзілы, бегемоты і змеі з Камеруна, шмат людзей загінула, сотні тысячт людзей засталіся без жылля.

**Румынія.** У цэнтры сталіцы Бухарэсце на былой плошчы Леніна з яго помніка скульптар Касцін Ianiцэ зрабіў шматгаловую гідру з руж правадыра сусветнага пралетарыяту.

**Ватыкан.** Эксперты Папскага прэстола назвалі набыты вучоным багасловам з ЗША Карэн Кінг рарытэт – папірус з указаннем жонкі Ісуса добра зробленай падробкай.

# Рыбгасы знізілі цэны на жывую рыбу



■ БелаПАН

**Рыбаводныя арганізацыі Беларусі па 10 лістапада гэтага года праводзяць акцыю па распродажы жывой сажалкавай і азёрна-рачной рыбы, рознічныя цэны зніжаны да 10%.**

Пра гэта паведаміла прэс-служба Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання.

Такім чынам, новая цана карпа складае ад 24,9 да 31,95 тыс. рублёў за кілаграм у залежнасці ад групы, белага амура — ад 28 тыс. да 32 тыс. рублёў, таўсталобіка — ад 22,5 да 26,9 тыс., карася — ад 14,9 да 20,9 тыс., шчупака — ад 28 тыс. да 40,7 тыс., сома — 48 тыс. рублёў.

Жывую рыбу можна набыць штодзённа ва ўсіх населеных пунктах рэспублікі на пляцоўках выязнога гандлю, на рынках, у магазінах, у якіх ёсць акварыумы.

Продаж рыбы вядзецца таксама на сельскагаспадарчых кірмашах выхаднога дня і на цэнтральным агульнагарадскім сельскагаспадарчым кірмашы ў Мінску. На такіх кірмашах рыбгасы выстаўляюць пашыраны асартымент сажалкавай рыбы і рыбы каштоўных відаў, вэнджана-вяленую і замарожаную прадукцыю.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** А. Лукашэнка прызнаўся, што доўга вагаўся, але цвёрда вырашыў скарасціць на 25-30 % колькасць дзяржаўных чыноўнікаў розных узроўняў і пачаць рэфармаванне ўлады.

**Гомель.** Мясцовае вытворчае аб'яднанне "Крышталь" стала кіруючай кампаніяй новага айчыннага ювелірнага холдынга разам яшчэ з ЗАТ "Белгран" і ААТ "Белювеліргандаль".

**Ветка.** З-за ўзнікшых спрэчак урад Беларусі разарваў інвестыцыйны дагавор з іранскай кампаніяй Azarab Ind аб будаўніцтве на тэрыторыі раёна буйнога цэментнага завода.

**Фаніпаль.** У пасёлку пачалося будаўніцтва 15-га па ліку сучаснага завода па выпуску хуткасных паяздоў рэгіянальных і гарадскіх ліній швейцарскай фірмы Stadler.

**Мінск.** На 7 лістапада прызначылі адкрыццё трох новых станцый Маскоўскай лініі метро – "Грушаўка", "Міхалова" і "Пятроўшчына", але з уліку знялі 8800 чаргавікоў на жыллё.

**Горкі.** Не паспелі прайсці пампезныя "Дажынкі-2012", як у райцэнтры абвалілася тратуарная плітка, яе клалі, як і ўзводзілі іншыя аб'екты горада, - у невераготдаай спешцы.

**Мінск.** У Беларусі з-за неабгрунтаванагаросту зарплат, папярэдзіў эканаміст Л. Злотнікаў, вельмі верагодна зноў паўтарэнне валютнага крызісу 2011 года і высокага росту цэн.

**Жодзіна.** Пасля ўдзелу ў сусветнай выставе ў Лас-Вегасе гендырэктар БелАЗа П. Марыеў прызнаў, што завод паспяшаўся з ростам цэн на свае машыны, ёсць пытанні і па іх якасці.

**Печы.** Больш тысячы ваеннабавязаных былі прызваны з запасу на вучэнні ў ваенныя часці 72-га аб'яднанага вучэбнага цэнтра Міністэрства абароны Беларусі паблізу Барысава.

**Мінск.** На заводзе пральных машын ЗАТ "Атлант" пачалі выпуск тэхнікі палепшанага класа энергаэфектыўнасці A++ з павялічанай загрузкай бялізны да 7 кг, 5 % ідзе ў ЕС.

**Рагачоў.** Адразу чатырох браканьераў-ваеннаслужачых са Слуцка затрымалі на возеры разам са школьнікам падчас рэйду, ім пагражае крымінальная адказнасць за вылаў 68 кг рыбы.

**Гродна.** Мясцовы лясгас атрымаў ад пагранічнай заставы тушу маладога лася, параненага паляўнічымі ў Польшчы, які перабег праз дзяржграніцу і памёр на тэрыторыі Беларусі.

**Мінск.** На новы конкурс песні "Еўрабачанне-2013" у Швецыі Белтэлерадыёкампанія адмовілася фінансаваць большасць расходаў артыста - пераможцы нацыянальнага адбору.

**Ашмяны.** З дапамогай службовай сабакі на пункце пропуску "Каменны лог" у багажніку аўтамабіля грамадзяніна Беларусі знайшлі наркотыкі – больш 1 кілаграма гераіну.

**Барысаў.** Чэмпіён Беларусі, ФК "БАТЭ" здзівіў усю Еўропу сваім удалым стартам у групе "F" прэстыжнай Лігі чэмпіёнаў УЕФА і разгромам грандаў футбола з Германіі, Францыі.

# У Беларусі на 6,8% павялічаны цэны на звадкаваны газ

У Беларусі гранічныя рознічныя цэны на звадкаваны газ для запраўкі аўтамабільнага транспарту пры рэалізацыі на аўтамабільных газазапраўчных станцыях павышаюцца на 6,8%. Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Міністэрства эканомікі № 83 ад 12 кастрычніка 2012 года, паведамляе БЕЛТА.

Згодна з дакументам, лімітавая мінімальная рознічная цана на звадкаваны газ для запраўкі аўтатранспарту павялічваецца з Br4000 да Br4270 за літр, гранічная максімальная - з Br4400 да Br4700 за літр.

Узровень рознічнага кошту вызначаецца юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі з улікам кан'юнктуры рынку ў рамках устаноўленых межаў.

Таксама ў Беларусі на 6,3-15% павышаюцца гранічныя максімальныя адпускныя цэны на газы вуглевадародныя звадкаваныя паліўныя для камунальна-бытавога спажывання і аўтамабільнага транспарту. Адпускныя цэны фарміруюцца на аснове кан'юнктуры рынку з улікам гранічных максімальных адпускных цэн. Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Міністэрства эканомікі № 82 ад 12 кастрычніка 2012 года. Пастанова ўступае ў сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання, якое адбылося 20 кастрычніка на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Міёры**. Расійская фірма-інвестар пачала будаваць на паўвостраве каля вёскі Мурашкі ў прыгожай мясцовасці загарадны клуб-гатэль на 150 месц для адпачынку багатых людзей.

**Орша.** З-за недахопу сродкаў дырэкцыя Бабініцкага дома-інтэрната для прэстарэлых і інвалідаў на 405 месц зноў звярнулася за матэрыяльнай дапамогай да людзей Беларусі.

**Полацк.** З будаўнічамантажнага трэста № 22 з колькасцю тысяча працаўнікоў ужо звольнілася з-за малых зарплат звыш 400 самых кваліфікаваных спецыялістаў-будаўнікоў.

**Глыбокае.** Грамадзянская кампанія "Гавары праўду" паведаміла аб адкрыцці ў райцэнтры і яшчэ ў 17 гарадах Беларусі свайго прадстаўніцтва для вырашэння праблем людзей.

**Віцебск.** На полі паблізу вёскі Бондары падчас правядзення сельгасработ знайшлі вялікі арсенал боепрыпасаў: 24 снарады, 15 мін, 18 гранат, 67 узрывальнікаў, усё было знішчана.

**Сянно.** Раніцай на адной з дарог раёна 22-гадовы кіроўца на сваім аўто сутыкнуўся з фургонам, які зляцеў ад удару ў кювет, былі паранены 3 чалавекі і трапілі ў бальніцу.

**Полацк.** Апергрупа мясцовага пагранатрада за незаконны пераход дзяржграніцы на Браслаўшчыне затрымала 23-гадовага літоўца, яму наклалі штраф 5 мільёнаў і дэпартавалі.

**Глыбокае.** Мясцовы райкамунгас нарэшце набыў новы грэйдэр на базе трактара Беларус-92 П, які можа акрамя догляду і раўнення вуліц чысціць раснег, закопваць траншэі.

**Паставы.** Ля помніка воінам-афганцам на беразе ракі Мядзелка з'явіўся мемарыял воінскай славы з савецкай тэхнікай той вайны: БМП, БМД, БТР, пушкай, верталётам МІ-8.

**Шаркаўшчына.** Па гарачых слядах міліцыі ўдалося знайсці і затрымаць 22-гадовага хлопца з вёскі Каўшалёва, які ўгнаў іншамарку з незакрытага гаража жыхаркі райцэнтра.

**Наваполацк.** У цэнтры рамёстваў і традыцыйнай культуры адкрыўся мастацкі салон, тут прадаюцца аўтарскія работы, сувеніры, прадметы інтэр'еру, лялькі і ўпрыгожванні.

**Полацк.** На працягу некалькіх дзён жылі без вады жыхары аграгарадка Астроўшчына пасля прарыву адразу ў 3-х месцах вадаправоду, падтапіла і адзін з мясцовых двароў.

**Лепель.** З падсобнага памяшкання магазіна вёскі Дамжэрыцы невядомы злодзей з мясцовых зламаў навясны замок ва неўстаноўлены час і скраў адтуль … 300 грам журавін.

**Браслаў.** Жыхары пявучай вёскі Дрысвяты сталі героямі дакументальнай стужкі, якая атрымала Гран-пры VIII Рэспубліканскага фестываля дакументальных фільмаў у Брэсце

**Віцебск.** Усе сустрэчы 1-га круга Экстралігі-Адкрытага чэмпіянату Беларусі па хакеі прайграў клуб "Віцебск", каманды вобласці сталі найгоршымі і ў іншых відах спорту.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Кс. Аляксей Юркайць, *адміністратар парафіі Мосар.*

# Памерлыя – нашыя сябры ў Вечнасці.

## Запрашаем на Навэнну за памерлых у Мосар

**Чалавек не ў стане ў адзін момант зразумець усіх аспектаў вялікага багацця, якое прыпадае на людскую жыццёвую дарогу, і таму раскладаецца яно на розныя хвіліны жыцця. Чалавек асабліва ўспамінае дзень нараджэння, хросту, гадавіну шлюбу, а таксама гадавіну смерці кагосьці з блізкіх памерлых. У лістападзе, у апошні восеньскі месяц, каталікі перажываюць дні памяці і малітвы за памерлых - дзень спаткання з веліччу смерці і ўспаміну тых, якія адышлі з гэтага свету.**

Для хрысціяніна жыццё не заканчваецца, толькі змяняецца, а нашая сувязь з памерлымі не разрываецца, а наадварот узмацняецца. Для людскіх вачэй родныя людзі знікаюць і застаецца толькі труна. Для веруючага сэрца памерлы, якога любіць, назаўсёды застаецца вельмі блізкім…

Молімся за памерлых. Маліцца за іх будзем заўсёды… Не заўсёды, аднак, памятаем аб тым, што яны, удзельнічаючы ў вечным жыцці, можа чакаюць у чыстцы на дасягненне Божай хвалы і патрабуюць нашай малітвы.

"Тыя людзі, што паміраюць у ласцы і сяброўстве з Богам, але яшчэ не ачышчаныя ў поўні, хоць ужо і ўпэўненыя ў сваім збаўленні, пасля смерці праходзяць ачышчэнне, каб атрымаць святасць, неабходную для ўвахода ў неба", - так вучыць Катэхізм Каталіцкага Касцёла. Неба – месца прабывання Бога і Святых, а таму, як гаворыць Святое Пісанне, "нішто нячыстае ў Яго не ўвойдзе"(Ап 21, 12). Душы ў чыстцы ўжо не могуць выпрасіць для сябе Божай Міласэрнасці, бо гэта магчыма ўчыніць толькі на зямлі. Таму яны з надзеяй чакаюць дапамогі ад нас; нашыя малітвы і ўчынкі міласэрнасці могуць дзейсна дапамагаць і нам, і душам нашых памерлых.



Шмат хрысціянаў дасведчаюць адчувальную дапамогу блізкіх, якія перакрочылі парог смерці. Яны давяраюць ім свае цяжкія справы, моляцца аб іх збаўленні і просяць праз іх заступніцтва аб дапамозе. Збаўленыя душы ў небе не жывуць для сябе, але для іншых і могуць нам дапамагаць. Гэтая праўда ўмацоўвае нашую веру ў вечнае жыццё.

На працягу месяца лістапада молімся за душы памерлых, якія церпяць у чыстцы, а таксама дзякуем за тое, што, дасягнуўшы святасці, яны заступаюцца перад Тронам Бога за нас. Гэта таямніца. Яна стане вядомай толькі ў вечнасці, хоць і на зямлі можна заўважыць іх дзейнасць і дапамогу. Не дзелім жа людзей на жывых і памерлых, але будзем жа ўспрымаць і адных, і другіх як сяброў. Тыя, якія памерлі і перайшлі да вечнага жыцця, з'яўляюцца найвярнейшымі сябрамі, бо ніколі не падвядуць нас; лепшымі, бо ведаюць, аб якіх каштоўнасцях мы павінны клапаціцца, каб мець удзел у вечнай спадчыне, у Нябесным Валадарстве Бога.

У гэтым годзе ў Мосары адбудзецца Навэнна за памерлых. На працягу 9-ці дзён безупынна з 1 па 9 лістапада штодня Еўхарыстычная Ахвяра будзе складацца за ўсіх памерлых з Экзэфіяй і працэсіяй, паводле старадаўняга звычаю. Асабліва будзем маліцца аб узнагародзе вечнага жыцця ў шчасці:

**1 лістапада** – за памерлых ксяндза кардынала Казіміра Свёнтка і ксяндза пралата Юозаса Бульку, за памерлых святароў, манахаў і манахінь(13:00);

**2 лістапада** – за памерлых блізкіх родных і сваякоў(13:00);

**3 лістапада** – за памерлых сужанкаў(17:00);

**4 лістапада** – за памерлых дзяцей(13:00);

**5 лістапада** – за памерлых бацькоў(17:00);

**6 лістапада** – за памерлых братоў і сясцёр(17:00);

**7 лістапада** – за памерлых бабуляў і дзядуляў(17:00);

**8 лістапада** – за памерлых ад насілля, за ахвяр войнаў і за загінуўшых у катастрофах (17:00);

**9 лістапада** – за дабрадзеяў(17:00).

**4 лістапада** ў нядзелю ў 13 гадзін у Мосарскім касцёле адбудзецца святая Літургія з працэсіяй на могілкі, малітва за памерлых і асвячэнне магілаў.

Згодна з традыцыяй, на працягу актавы ўспаміну ўсіх памерлых, якая працягваецца з 1 па 8 лістапада, вернікі наведваюць могілкі і моляцца за памерлых. У гэты час ёсць магчымасць атрымаць адпуст – поўнае адпушчэнне кары за грахі. Для атрымання адпусту неабходна быць у стане асвячальнай ласкі (гэта значыць, прыступіць да сакрамэнту споведзі), прыняць святую Камунію, памаліцца ў інтэнцыі Святога Айца і наведаць могілкі.

І менавіта тое, што мы можам даць нашым памерлым, – гэта наша малітва, якая з'яўляецца ўдзячнасцю за любоў нашых блізкіх і за ўсё добрае, што яны ўчынілі тут, на зямлі, і дазваляе нам трываць у духоўнай сувязі з імі. Тады і матэрыяльныя знакі памяці: помнікі, кветкі, зніччы становяцца выразам нашай малітвы. Актава ўспаміну ўсіх памерлых – асаблівы час для кожнага хрысціяніна. У гэтыя дні ўвесь Касцёл у адзін голас моліцца за памерлых, заклікаючы да Божай міласэрнасці.

# Мастацкія работы шаркоўшчынскіх школьнікаў у гонар бітвы на Сініх Водах



Фота: Андрэй Бурэц, klich.by

Дар'я Міхайлоўская

**Вучні Шаркоўшчынскай дзіцячай школы мастацтваў адзначылі 650-ю гадавіну бітвы на Сініх Водах выставай сваіх твораў. Пра гэта піша раённая газета *«Кліч Радзімы».***

Адчуць сябе сведкамі тагачасных падзеяў і выявіць гэта ў мастацтве – давялося вучням Шаркоўшчынскай школы мастацтваў. Ім было прапанавана даслаць свае работы ў Мінск на прысвечаную бітве выставу. Удзел у гэтым бралі старэйшыя вучні школы мастацтваў – Яна Турчынская, Крысціна Балай, Ілля Арлюкевіч, з малодшых — Аляксей і Анастасія Букі, Андрэй Арлюкевіч, Аляксей Лук'янскі, Віка Іванова, Насця Сцепаненкава, Рыта Ерамеева, Дзіяна Лалыка. Каб лепш зразумець і перадаць гэты настрой, дзеці ўважліва азнаёміліся з гістарычнай і мастацкай літаратурай, вышуквалі інфармацыю ў Інтэрнэце.

Навучэнцы малявалі саму бітву, партрэты важных гістарычных асоб, простых ваяроў. Тое, як выканалі дзеці свае работы, задаволіла не толькі выкладчыкаў, але і арганізатараў выставы – усе працы былі прыняты да ўдзелу.

— Лічу, што такія творчыя мерапрыемствы патрэбныя, — расказвае выкладчык школы мастацтваў Віктар Фёдаравіч Крук. — Таму з радасцю адгукнуўся на прапанову арганізатара выставы мастака Міколы Купавы і прапанаваў дзецям прыняць у ёй удзел. У працэсе працы над творамі мы разам пазнавалі падрабязнасці гэтай важнай падзеі ў нашай гісторыі, знаёміліся з яе ўдзельнікамі і, увогуле, гістарычнымі асобамі, якія жылі ў той час.

Атрымалася, што мы праз творчасць папоўнілі прабелы ў нашых ведах гісторыі. Бо, на маю думку, у школе вывучэнню нашага мінулага, у якім шмат вартых гонару старонак, надаецца не так шмат увагі, як таго хацелася б, – кажа Віктар Крук.

Бітва на Сініх Водах адбылася восенню 1362 года, роўна 650 гадоў таму, на невялікай рэчцы Сінюсе, паміж войскам ВКЛ і татарскай ардой. Войска Вялікага княства Літоўскага, на чале з Альгердам, ушчэнт разграміла татарцаў. Гэтая перамога значна падарвала магутнасць Залатой Арды і паклала пачатак вызваленню ўсходнеславянскіх народаў ад пакутнага ардынскага іга. У выніку гэтай бітвы, межы ВКЛ пашырылі далёка на поўдзень у напрамку да Чорнага мора – княства далучала да сваёй тэрыторыі Паўднёва-Заходнюю і Заходнюю Русь і тым самым стала буйнейшай дзяржавай тагачаснай Еўропы.

# За 9 месяцаў на тэрыторыі Докшыцкага раёна зарэгістравана 228 злачынстваў

**За9месяцаўнатэрыторыі раёна зарэгістравана 228 злачынстваў. З іх па лініі крымінальнага вышуку – 179. Большаць з іх здзейснена ў стане алкагольнага ап'янення.**

### Смерць на матацыкле

26-гадовы жыхар Гарадзішча, нягледзячы на малады ўзрост, з алкаголем сябраваў даўно. Быў п'яны і тады, калі ідучы з сужыцелькай па вуліцы, сустрэў аднавяскоўца, які ехаў на матацыкле. На сваю бяду, матацыкліст спыніўся ля парачкі і п'яны маладзец тут жа пажадаў сесці за руль. Уладальнік матацыкла паспрабаваў адмовіць, ды дзе там! Моцна п'янага, а таму агрэсіўнага юнака было не спыніць. Вось ён ужо ўскарабкаўся на матацыкл, завёў яго і… Гэта, напэўна, была самая кароткая дарога ў яго жыцці. Яшчэ на вясковай вуліцы ён не справіўся з кіраваннем, перакуліўся і забіўся насмерць.

### "Ратуйцеся, Лёшка з турмы выйшаў!"

Калі Лёшку першы раз прывялі ў суд, пасадзілі на стул, то ногі хлопца да полу не даставалі. Нават суддзя, які шмат чаго пабачыў, не мог стрымаць свайго здзіўлення юным ўзростам злодзея. Зараз хлопцу 22 гады, а кніга яго жыцця складаецца толькі з двух старонак: воля – калонія, якія з зайздроснай перыядычнасцю змяньваюць адна адну.

Як толькі Лёшка выходзіць на волю, у вёсках Бярозкаўскага сельсавета – вэрхал. Пажылыя людзі на сяло адзін да аднаго не ходзяць, хаты не кідаюць, бо Лёшка — тут як тут. Бярэ ўсё, што пад руку трапіць. Моцна спаць ноччу таксама не рэкамендуецца, злодзей улазіць праз вакно і, нягледзячы на прысутнасць гаспадароў, бярэ тое, што яму спадабаецца. З нядаўняга часу вяскоўцам наступіла палёгка. Лёшка — за 7 эпізодаў крадзяжу ўласнай маёмасці грамадзян зноў пайшоў звыклым шляхам на зону.

### Есці хочацца, а пахмяліцца яшчэ больш

Вялікай непрыемнасцю закончылася падарожжа ў райцэнтр для пенсіянера з Гняздзілава. Дзядуля зайшоў у краму, накупляў прадуктаў, прыхапіў і бутэльку піва. Да аўтобуса яшчэ быў час, таму вырашыў пасядзець на плошчы на лавачцы, паглядзець на прыгожы фантан. Сумку з купленым паставіў пад лаўку і загледзеўся на праходзячых міма людзей. Калі зірнуў пад лаўку, то сумкі там ужо не было. Стары ўскочыў, кінуўся туды-сюды і ўбачыў, як з плошчы з яго сумкай у руках уцякае невядомы мужчына. Дзядуля паспрабаваў бегчы за ім, ды дзе там, праз пару хвілін злодзей знік з вачэй.

Але ад міліцыі яму так лёгка ўцячы не ўдалося. Знайшлі, затрымалі і нават вярнулі дзядулю купленае сала. А вось піва злодзей выпіў, казаў, што надта хацелася апахмяліцца, «трубы гарэлі».

### Напіўся да страты памяці

Падобным сцвярджэннем малады жыхар адной з вёсак Бягомльскага пассавета прыкрывае свой паскудны ўчынак, які ён зрабіў у адносінах да старшакласніцы адной са школ суседняга раёна. Толькі гэта не апраўданне. Здзяйсненне злачынства ў стане алкагальнага ап'янення з'яўляецца абцяжваючымі віну абставінамі.

Дзяўчына з сяброўкамі прыехала на свята ў Бягомль і трапіла ў пераплёт, які будзе, пэўна, памятаць усё жыццё. Ля ГДК да яе прычапіўся моцна п'яны хлопец. Дзяўчына адбівалася, як магла. Ды што можа зрабіць непаўналетняя са здаровым дзецюком? Тое, што з дзяўчынай адбываецца нешта нядобрае, зразумелі дзеці, якія бегалі непадалёку. Яны пабеглі за міліцыяй. Праз некалькі хвілін міліцыянеры былі на месцы і ўбачылі тое, што называецца згвалтаваннем.

*Крыніца: Родныя вытокі*

# Вячаславу Буку – 70 гадоў



Вячаслаў Ульянавіч Бука, прафесар, наш сталы чытач, адзін з аўтараў краязнаўчых матэрыялаў, якія публікаваліся ў нашай газеце.



Кліменцій Кожан,
*м. Германавічы.*

**Вядомаму беларускаму вучонаму, прафесару, доктару біялагічных навук, загадчыку аддзела біяхімічнай фармакалогіі Інстытута фармакалогіі і біяхіміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Вячаславу Ульянавічу Буку споўнілася 70 гадоў.**

Нарадзіўся ён 20 кастрычніка 1942 года ў вёсцы Маркі Шаркоўшчынскага раёна. У 1948 годзе паступіў у першы клас Шаркоўшчынскай сярэдняй школы, але праз некалькі дзён быў пераведзены ў другі клас. Скончыў школу ў 1958 годзе і паступіў у Гродзенскі медыцынскі інстытут. Падчас навучання ў інстытуце займаўся навуковай працай у гуртку пры кафедры фармакалогіі, меў друкаваныя публікацыі.

У 1964 годзе пасля атрымання дыплома ўрача быў накіраваны ў Пагост-Загародскую сельскую бальніцу Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Працаваў тут урачом сельскага ўрачэбнага ўчастка, пасля галоўным урачом Бобрыкаўскай сельскай бальніцы таго ж раёна. З 1966 года працаваў у Брэсце, спачатку ўрачом-анэстэзіёлагам, а пасля загадчыкам анэстэзіялагічнага аддзялення Брэсцкага гарадскога радзільнага дома.

У 1971 годзе пераехаў у Гродна па запрашэнні прафесара Астроўскага Ю. М., які арганізаваў там новую навуковую ўстанову – Аддзел рэгуляцыі абмену рэчываў Акадэміі навук БССР. У 1976 годзе Аддзел быў пераўтвораны ў Інстытут біяхіміі АН БССР (з 2007 года – Інстытут фармакалогіі і біяхіміі Нацыянальнай акадэміі навук). У гэтай навуковай установе Бука В.У. спачатку працаваў малодшым, потым старшым і вядучым навуковым супрацоўнікам. У 1979 годзе ён абараніў у Інстытуце фізіялогіі АН БССР кандыдацкую дысертацыю «Роль тиамина и его производных в регуляции обмена жирных кислот», а ў 1989 годзе ў Інстытуце эксперыментальнай медыцыны ў Ленінградзе – доктарскую дысертацыю “Взаимоотношения этанола и ацетальдегида с простагландиновой системой в печени”. З 1990 года Бука В.У. загадваў лабараторыяй эксперыментальнай гепаталогіі. У 1996-1998 гадах адначасова з'яўляўся намеснікам дырэктара па навуковай рабоце. Навуковае званне прафесара атрымаў у 2000 годзе.

З чэрвеня 2007 года Бука В.У. загадвае буйным аддзелам біяхімічнай фармакалогіі з лабараторыямі ў Гродне і Мінску. Адначасова ён узначальвае спецыялізаваны савет па абароне дысертацый пры Інстытуце фармакалогіі і біяхіміі НАН Беларусі.

Бука А.У. стварыў уласную навуковую школу. Пад яго кіраўніцтвам абаронены некалькі доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый. Яго вучні працуюць не толькі ў навуковых установах Беларусі, але і ў Расіі, ЗША, Швейцарыі.

Вучоны вядзе курс біяхіміі вугляводаў і ліпідаў у Гродзенскім універсітэце, кіруе курсавымі і дыпломнымі работамі. Чытаў лекцыі ў замежных універсітэтах: у Гёттынгенскім, Йенскім і Эрлангенскім (Германія), Турынскім і Трыестскім (Італія), Будапешскім (Венгрыя), Мадрыдскім (Іспанія).

Галоўнымі навуковымі прыярытэтамі прафесара з'яўляюцца вывучэнне малекулярных механізмаў захворванняў печаня і іншых захворванняў (дыябет, атэрасклероз), а таксама распрацоўка метадаў іх фармакалагічнай карэкцыі. Ім распрацаваны ўласныя тэорыі алкагольнага пашкоджання печаня і антыаксідацыйнай абароны арганізма ліпідамі, якія атрымалі прызнанне міжнароднай навуковай супольнасці. Распрацоўкі, прысвечаныя лячэнню захворванняў печаня, знайшлі прымяненне ў Беларусі, Польшчы і Германіі.



**З аднакурснікамі.** Злева – Валер Мінакоў, загадчык аддзялення ў Прэзідэнцкай клініцы, Масква; Справа – прафесар Аркадзь Грэсь, Беларуская медычная акадэмія паслядыпломнай адукацыі, у цэнтры –Вячаслаў Бука, прафесар, доктар біялагічных навук, загадчык аддзела біяхімічнай фармакалогіі Інстытута фармакалогіі і біяхіміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Чэрвень 2010 г. Гродна.

Прафесар Бука В.У. прымаў удзел у навуковых канферэнцыях, якія праходзілі ў Аўстраліі, Аўстрыі, Англіі, Балгарыі, Венгрыі, Германіі, Даніі, Іспаніі, Італіі, Польшчы, Славакіі, Францыі, Чэхіі, Швецыі, Швейцарыі. Больш 30 разоў выступаў з дакладамі на міжнародных канферэнцыях, семінарах і сімпозіумах. Быў кіраўніком секцыі на 5-м Еўрапейскім кангрэсе па вывучэнні алкагалізму ў Штутгарце (верасень 1995г.) і на Еўрапейскім сімпозіуме па метабалізму алкаголя і яго наступствах (Прага, красавік 1996г). У лістападзе-снежні 1990 года знаходзіўся на стажыроўцы ў Інстытуце біяхіміі Гётынскага ўніверсітэта (Германія), у 1991 і 1993 гадах – у Інстытуце агульнай паталогіі Турынскага ўніверсітэта (Італія). У кастрычніку-снежні 1992 года, верасні-лістападзе 1994 года і ў маі-чэрвені 1995 года праводзіў даследчую работу ў Інстытуце біяхіміі Йенскага ўніверсітэта (Германія) па грантах Еўрапейскага навуковага фонду і Нямецкага цэнтра ядзерных даследаванняў. Бука В.У. мае дагаворы аб навуковым супрацоўніцтве з шэрагам навуковых устаноў Еўропы (Германія, Італія, Венгрыя, Польшча). Лабараторыю Букі В.У. актыўна наведваюць замежныя навукоўцы. За апошнія гады ў ёй пабывалі вучоныя з Германіі, Італіі, ЗША, Чэхіі і Польшчы.

Бука В.У. праводзіць пошук дадатковага фінансавання для лабараторыі і інстытута. Ім рэгулярна афармляюцца навуковыя праграмы для атрымання міжнароднага і рэспубліканскага фінансавання. З 1994 года навуковы праект Букі В.У. уключаны ў рэспубліканскую праграму па ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы.

Бука В.У. і супрацоўнікі яго лабараторыі неаднаразова атрымлівалі гранты Фонда фундаментальных даследаванняў, а таксама шматлікія замежныя гранты для стажыроўкі ў замежных навуковых цэнтрах.

Бука В.У. з'яўляецца аўтарам больш за 450 навуковых прац, у тым ліку 5 манаграфій. Больш за 100 артыкулаў змешчаны ў часопісах і зборніках, з іх 28 у прэстыжных міжнародных і еўрапейскіх часопісах.

Бука В.У. абраны акадэмікам Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (1995) і Нью-Ёркскай акадэміі навук (1996).

Ён з'яўляецца членам Еўрапейскай (ESBRA) і Міжнароднай (JSBRA) асацыяцый па біямедыцынскім даследаванні алкагалізму, Еўрапейскай асацыяцыі па вывучэнні печаня (EASL), Міжнароднага таварыства па вывучэнні метабалізму ксенабіётыкаў (JSSX) і Еўрапейскага таварыства па клінічных даследаваннях (ESCJ).

Бука В.У. з'яўляецца прадстаўніком Еўрапейскага таварыства біяхімічнай фармакалогіі (ESBR) ў Беларусі, а таксама афіцыйным рэцэнзентам міжнародных часопісаў “Alcohol” (ЗША) і “Alcohol and Alcoholism” (Англія).

Навуковыя заслугі прафесара Букі В.У. адзначаліся і ацэньваліся на самых розных узроўнях. У 1991 годзе ён быў узнагароджаны сярэбраным медалём Турынскага ўніверсітэта (Італія). У 1993 годзе Бука В.У. атрымаў прэмію Фонда Сорыса, у 1994 годзе ўзнагароджаны Ганаровай граматай Гродзенскага аблвыканкама, у 1996 годзе – граматай і прэміяй за лепшую навуковую працу на з'ездзе гепатолагаў Польшчы.

У 2009 годзе Бука В.У. удастоены прэміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Была высока ацэнена серыя навуковых прац: больш двух дзясяткаў артыкулаў і манаграфія, прысвечаныя распрацоўцы сучасных метадаў лячэння печаня і звязаных з ім органаў і тканіны.

Сёння, калі я заканчваў пісаць гэты артыкул, патэлефанаваў Вячаслаў Ульянавіч Бука. Ён толькі што вярнуўся з Германіі. Яго даклад на навуковай канферэнцыі заняў першае месца, другое месца прысуджана дакладу вучонага з Германіі, трэцяе месца – дакладу вучонага з Японіі.

Сваёй навуковай дзейнасцю Бука В.У. даказаў, што беларуская навука стаіць не ў баку ад еўрапейскай, а дапаўняе яе, ідзе поруч з ёю.

Хочацца павіншаваць Вячаслава Ульянавіча Буку з 70-годдзем, пажадаць яму новых поспехаў у навуковай і грамадскай дзейнасці, натхнення і плёну ва ўсіх справах, падтрымліваць цесную сувязь з родным краем.



г. Майнц (Германія), 6 кастрычніка 2012 г. Дэлегацыя навукоўцаў Гродна (дацэнт Пронька Н.А., доктар біялагічных навук Пронька П.С., праф. Бука В.У. і дацэнт Лукіўская А.Я.) падчас шпацыру па беразе Рэйна.

